*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***Францішак БАГУШЭВІЧ***





# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◆ № 7(63) ◆ 19 лютага 1992 г. ◆ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)


## ПОСТУП ТЫДНЯ

***НА СУСТРЭЧЫ КІРАЎНІКОЎ ДЗЯРЖАЎ І ЎРАДАЎ СНД У МЕНСКУ БЕЛАРУСЬ АБ'ЯВІЛА АБ ЖАДАННІ СТВАРЫЦЬ УЛАСНУЮ АРМІЮ, АЛЕ НЕ ЦЯПЕР, А ТОЛЬКІ ПРАЗ ДВА ГАДЫ. ЗА ЎЛАСНЫЯ ВОЙСКІ ВЫКАЗАЛІСЯ ТАКСАМА УКРАІНА, МАЛДОВА І АЗЕРБАЙДЖАН. ТАКІМ ЧЫНАМ, 8 З 11 ЧЛЕНАЎ СНД ХОЧУЦЬ МЕЦЬ АДЗІНЫЯ ЎЗБРОЕНЫЯ СІЛЫ.***

**Не дачакаўшыся канца сустрэчы ў Менску, кіраўнікі некаторых дзяржаў СНД раз'ехаліся па сваіх хатах. На прэс-канферэнцыі ў Доме ўрада прысутнічалі толькі трое з іх. Узнікае пытанне: калі кіраўнікі дзяржаў не могуць дамовіцца між сабой, то як гэта зрабіць на ўзроўні аб'яднанняў, прадпрыемстваў і гаспадарак?**

**У ДЗЕНЬ МЕНСКАЙ СУСТРЭЧЫ КІРАЎНІКОЎ ДЗЯРЖАЎ І ЎРАДАЎ СНД АДБЫЎСЯ МІТЫНГ ПРАДСТАЎНІКОЎ ПРАМЫСЛОВЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ. ВЫКАЗВАЛІСЯ ПАТРАБАВАННІ СПЫНІЦЬ РАЗВАЛ ВЫТВОРЧАСЦІ, НАВЕСЦІ ПАРАДАК У ЭКАНОМІЦЫ.**

***ПРАЦЯГВАЕЦЦА КРЫЗІС У ПРАМЫСЛОВАСЦІ. МНОГІЯ ПРАДПРЫЕМСТВЫ ПА-РАНЕЙШАМУ СТАЯЦЬ. Рабочым, якія вяртаюцца з вымушанага адпачынку, работы не хапае, заробкі падаюць. Заводы «Лідсельмаш», Навагрудскі газавай апаратуры і іншыя перайшлі на скарочаны рэжым працы.***

**ПІНСКІ ГАРСАВЕТ НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ ЗВЯРНУЎСЯ ДА БЕЛАРУСКАГА ПАРЛАМЕНТА З ПАТРАБАВАННЕМ СКЛІКАЦЬ РЭСПУБЛІКАНСКУЮ НАРАДУ КІРАЎНІКОЎ ГАР- І РАЙСАВЕТАЎ ДЛЯ АБМЕРКАВАННЯ СІТУАЦЫІ, ЯКАЯ СКЛАЛАСЯ Ў РЭСПУБЛІЦЫ, ПРАВЕСЦІ НЕЧАРГОВУЮ СЕСІЮ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА, ПРЫНЯЦЬ ІНШЫЯ МЕРЫ ДА ВЫХАДУ З КРЫЗІСУ.**

***Супрацоўнікі вышэйшых навучальных установаў сталіцы рэспублікі правялі мітынг, на якім выказалі патрабаванне палепшыць аплату працы выкладчыкаў, павысіць стыпендыі студэнтам, спыніць «уцечку мазгоў» з беларускіх ВНУ.***

## Выдатніца з Ратамкі



Люда Пятроўская яшчэ цвёрда не вырашыла, куды пойдзе вучыцца далей, калі закончыць школу. Але ўжо і сёння сямікласніца Ратамскай сярэдняй школы Менскага раёна ўпэўнена: ніколі не развітаецца з родным словам, з беларускай кнігай. Пацвярджэнне гэтаму — выдатныя адзнакі па роднай мове і літаратуры.

Фота М. ХАМЦА.


**Гутарку з народным дэпутатам Беларусі Лявонам БАРШЧЭЎСКІМ у клубе «Спадчына» чытайце на стар. 2**


# АБРАЗА З ЭКРАНА

### *Альбо: якому народу, на думку каментатара, павінны прысягаць нашы сыны?*

Шаноўная рэдакцыя! Разумею: Вас хвалююць іншыя праблемы, аднак звяртацца не маю больш куды... 13 студзеня 1992 года ў 19 гадзін 35 хвілін выступіў каментатар тэлебачання спадар Ларуцін. Не магу перадаць ягонага выступлення даслоўна, бо не маю магнітафона, але змест прыкладна такі: «Есці няма чаго, а дэпутаты прыдумалі свае грошы, межы, войска».

Разумею каўбасную псіхалогію «алкаголіка, злодзея», партакрата, але каб так разважаў інтэлігент, ды яшчэ тэлекаментатар, то даруйце: гэта ж здзек з Беларусі.

Відаць, спадар Ларуцін ніколі не быў у прымежных гарадах, а я бачыў, як у Гродні ў аўтобусы грузяць палякі ровары (веласіпеды), тэлевізары, запасныя часткі да машын і агрэгатаў, акумулятары, мяса, каўбасы і многае іншае, чаго за апошнія гады не бачыў ні разу ў крамах або ведаю, што купляў хтосьці толькі па візітках ды па чарзе. Гэта ж усё ўкрадзена ў беларусаў. Кажуць, што такое ж творыцца на памежжы з Літвой, Латвіяй, Украінай і Расіяй.

Няхай бы спадар Ларуцін параіў дэпутатам, як абараніць Беларусь ад гэтага бессаромнага і арганізаванага карумпіраванымі ўладамі рабунку. Няўжо незразумела, што чым больш накупляюць у нас суседзі, тым менш застанецца нашаму народу. А нам пакінуць толькі рублі, цана на якія кожны дзень падае.

Вельмі абурыла спадара Ларуціна і тое, што маладыя беларускія салдаты будуць прысягаць беларускаму народу. Якому ж іншаму народу павінны прысягаць нашы сыны, спадар каментатар чамусьці не сказаў.

Думаю, што так дрэнна адносіцца спадар Ларуцін да беларускага люду таму, што яму, каментатару, наш лёс абыякавы. Гэта відаць хоць бы з таго, што ён, працуючы дзесяткі гадоў у беларускіх сродках масавай інфармацыі, так і не вывучыў беларускай мовы. Літаральна за некалькі хвілін свайго выступлення тэлекаментатар зрабіў шэраг памылак. «Лепш худы мір за добрую вайну». У нас слова «худы» ў значэнні «дрэнны» не ўжываецца. «Магу заробіць...» замест «зарабіць». «Тунеядцаў няма...», а беларусы кажуць — «дармаедаў». «Вялікі пытальнік будзе стаяць пасля дзвюх слоў?..» Спадар Ларуцін думае, што «слова» ў беларускай мове жаночага роду, бо інакш ён сказаў бы «двух слоў».

У канцы перадачы спадар Ларуцін абразіў нават Старшыню Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Ён сказаў: «Каб хоць Шушкевіч не захацеў незалежнасці». Але калі Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі не хоча незалежнасці Рэспублікі Беларусь, то ён здраднік. Як жа можна такое казаць? Гэта ж абраза.

Ведаю, быў беларускім патрыётам ягоны бацька Станіслаў Пятровіч, з ім я сустракаўся некалькі разоў, працяглы час перапісваўся, упэўнены, што і Станіслаў Станіслававіч не меншы патрыёт.

І яшчэ. Памятаю, мая бабуля Марыля вельмі абуралася, калі хто ўжываў слова «халера». Яна казала, што гэта страшэнная лаянка. Спадар Ларуцін за пяць хвілін паспеў двойчы разануць эфір: «Хай іх халера!» Брудная лаянка супрацоўнікаў тэлебачання ў эфіры — гэта штосьці новае.

Алесь БЕЛАКОЗ.
в. Гудзевічы.

### *БСДГ: РЭФЕРЭНДУМ — СПРАВА ДАРАГАЯ, АЛЕ ДЛЯ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ВЫРАТАВАННЯ ІНШАГА ВЫЙСЦЯ ЦЯПЕР НЯМА*

**Да такой высновы прыйшлі ўдзельнікі чацвёртай канферэнцыі менскай гарадской філіі Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, што адбылася ў мінулую нядзелю ў клубе БМА. У рабоце канферэнцыі бралі ўдзел не толькі члены БСДГ, а і актывісты іншых дэмакратычных партый рэспублікі, лідэры незалежных прафсаюзаў, вядомыя вучоныя — гісторыкі, эканамісты, філосафы, палітолагі.**

Л. М.

У КЛУБЕ «Спадчына» адбылася сустрэча сяброў клуба з народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь, пісьменнікам Лявонам Баршчэўскім. Ва ўступным слове ён сказаў:

# ЛЯВОН БАРШЧЭЎСКІ: АБ'ЯДНАЦЬ ЛЮДЗЕЙ НА ІДЭІ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ




— Нядаўна скончыла работу чарговая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Асноўны парадак дня быў вычарпаны. Праўда, за закрыццё сесіі не галасавалі, адчуваючы, што ў хуткім часе давядзецца праводзіць спецыяльнае пасяджэнне. Самыя галоўныя пытанні, на вырашэнні якіх настойвала апазіцыя — вайсковыя. Апошнім часам войска, а дакладней, афіцэрства, палітызуецца і, бадай што, не ў тым накірунку, у якім патрэбна. Увесь час войска было прыдаткам партыйна-дзяржаўнай структуры, і калі кампартыя пакінула палітычную арэну, вайскоўцы адчулі «сіроцтва». А вайскоўцы — гэта ўзброеныя людзі, і вось яны пачалі палітызавацца. У гэтай сітуацыі войска стала небяспечным фактарам у нашым жыцці. Таму людзі і загаварылі пра магчымасць ваеннага перавароту. На маю думку, ніякага перавароту не будзе, бо няма каго пераварочваць. Фактычна ўлада засталася ў тых жа самых людзей, што і раней, асабліва ў нас, на Беларусі. І калі ў іншых рэспубліках да ўлады прыйшлі дэмакраты, то ў нас пра гэта застаецца толькі марыць.

Цяпер у Вярхоўным Савеце камуністычная большасць заняла абаронную пазіцыю. Шмат у чым камуністы ўжо не давяраюць Кебічу і кажуць: «Не дай Бог — ён напіхае ва ўрад нейкіх дэмакратаў».

Кансерватыўныя дэпутаты загаварылі пра тое, што нам патрэбны свае грошы, сваё войска. Гэта сведчыць, што ўжо і да іх даходзіць, што трэба рабіць, каб Беларусь стала сапраўды суверэннай дзяржавай. Хоць і гавораць яны пра ўсё гэта скрозь зубы.

За апошнія два гады рэспублікі былога Саюза выбіралі прэзідэнтаў і праводзілі розныя рэферэндумы. Падзеі апошніх тыдняў пераконваюць нас у правільнасці таго, што мы змагаліся супраць увядзення паста прэзідэнта. Сочачы за падзеямі ў суседніх дзяржавах, можна заўважыць, што яны капіруюць старую камуністычную сістэму. Фактычна цяпер ні Ельцын, ні Краўчук нічога новага ў плане прэзідэнцтва прыдумаць не могуць, бо яны выйшлі з нетраў камуністычнага апарату. Мы, устрымаўшыся ад спакусы займець свайго прэзідэнта, цяпер можам вучыцца на памылках суседзяў.

Нядаўна Вярхоўным Саветам быў прыняты дзяржаўны бюджэт на 1992 год. Тэмпы інфляцыі дасягнулі такой мяжы, што любыя спланаваныя паказчыкі могуць стаць смешнымі нават праз месяц, таму я лічу, што з бюджэтам мы паспяшаліся. Наш бюджэт унікальны. У ім 11 % ад нацыянальнага даходу аддаецца на адукацыю.

Па працэнце выдаткаў на адукацыю мы абагналі ўсе краіны свету, нават ЗША.

Беларусь засталася адзінай з былога Саюза, што дапусціла спад вытворчасці толькі на 3 %. У той час як Расія — на 20 %, астатнія дзяржавы — у межах ад 10 да 25 %. Натуральна, што працэсы, якія адбываюцца ў Расіі, балюча закранаюць і нас, і менавіта многія разумеюць, што паміж намі патрэбны і мяжа і суровы мытны рэжым.

— *Якія новыя элементы структуры створаны ў нас за апошні час? Калі мы будзем дабівацца роспуску Вярхоўнага Савета і даб'ёмся гэтага? Ці не абгоняць нас суседзі ў плане ўмацавання сваёй незалежнасці?*

— Зусім нядаўна прынята рашэнне стварыць уласныя пагранічныя войскі і мытныя службы. Нават спадар Кастэнка перакананы, што толькі ядзерныя сілы павінны ўваходзіць у агульныя войскі СНД, а ўсе астатнія — належаць Беларусі. Міністэрству абароны РБ дадзена два месяцы на распрацоўку ваеннай дактрыны. З прызначэннем міністра абароны мы папрасілі Кебіча не спяшацца, і ён нас паслухаўся, таму што цяпер Чавуса «заваляць». Відаць, не пройдзе і Кастэнка. Ёсць меркаванне, каб у Рэспубліцы Беларусь быў цывільны міністр абароны.

Пры новай сістэме выбараў са 160 мандатаў вёска будзе мець 25—30. На сённяшні дзень у вёсках жыве каля 28 % насельніцтва, а дэпутатаў ад вёскі — фактычна большая частка.

*У нас будуюць кватэры для вайскоўцаў, якія вяртаюцца з Еўропы. Ці можна паставіць пытанне, каб да нас вярталіся толькі ўраджэнцы Беларусі?*

— Мы галасавалі супраць таго, каб вайскоўцы з Еўропы сяліліся ў Беларусі. Наша галоўная задача — аб'яднаць людзей на ідэі дзяржаўнасці. У гэтай сітуацыі мы паступова ідзём да таго, што ў пашпарце не будзе графы «нацыянальнасць».

— *Ці патрэбна нам расійскае тэлебачанне?*

— Я лічу, што пакуль што патрэбна, каб нашы людзі мелі магчымасць паглядзець на тое, што адбываецца ў Расіі.

— *Каму належыць першы канал тэлебачання?*

— На сённяшні дзень ён невядома чый. Была дамова, што ён стане каналам Садружнасці, але гэтага яшчэ не адбылося. Забраць сабе каналы на сённяшні дзень мы не можам, бо і адну праграму мы не ў сілах зрабіць толкам.

— *Як вы ставіцеся да заявы Ельцына, каб савецкіх немцаў пасяліць на палігоне? Вашы адносіны да грузінскіх падзей?*

— Барыс Мікалаевіч дапусціў скандальнае выказванне, і цяпер яго ўраду доўгі час давядзецца сцвярджаць адваротнае. У пытанні грузінскіх падзей я падзяляю пазіцыю Шушкевіча.

— *Як вырашаюцца пытанні, звязаныя з пасольствамі?*

— У бліжэйшы час мы плануем адчыніць сем пасольстваў. І калі ў СССР было 133 пасольствы, то нам прапарцыянальна павінна належаць сем. Але як усё будзе вырашана, невядома.

*Ці прызнала Расія незалежнасць Беларусі?*

— Прызнала. Праўда, такой пастановы ў друку з боку Ельцына я не бачыў.

— *Якой вы бачыце Беларусь праз гадоў дзесяць?*

— Я б прагноз на 10 гадоў наперад не рабіў, а на гадоў 35. Нават калі мы будзем ажыццяўляць планамерную беларусізацыю і ніякія знешнія прычыны нам не перашкодзяць, то пакаленне, якому за 35, у сваёй большасці не зменіцца. Асноўная задача — гэта выхаваць у нацыянальным духу маладзейшыя пакаленні. Рэальная змена арыенціраў адбудзецца на працягу 35 гадоў. Недзе праз 8—10 гадоў у эканамічным плане мы патэнцыяльна можам выйсці на такі ўзровень жыцця, які мае Партугалія. А праз 10—12 гадоў наблізіцца і да самых развітых краін Еўропы.

— *Уявім, што мы сталі цалкам незалежнымі. Якой будзе далейшая дзейнасць дэмакратаў?*

— Незалежнасці ў нас на сённяшні дзень столькі, колькі мы хочам. Дэмакратычным сілам заўсёды ёсць праца — фарміраванне нацыянальнай свядомасці.

Падрыхтаваў Віктар ШНІП.

# «Да ведама», ці «пра няведанне...»

Сябры Баранавіцкага гарадскога аддзялення ТБМ імя Ф. Скарыны абурыліся новым звычаем Беларускага радыё падаваць абвесткі на расійскай мове і напісалі ліст былому старшыні Дзяржтэлерадыё сп. А. Р. Сталярову і яго намесніку сп. Б. І. Сушкевічу (народнаму дэпутату рэспублікі ад г. Баранавічы). Але атрымалі, як піша нам Міхась Кадыка, «адпіску». Друкуем яе цалкам.

*Паважаны тав. Кадыка М. А.!*

*Колькі я працую на радыё (а гэта ўжо 28 гадоў), столькі ІСНУЕ ПАТРАБАВАННЕ РАБІЦЬ ПЕРАДАЧЫ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ. АЛЕ ЧАСТА ЖУРНАЛІСТЫ ВЫМУШАНЫ ПАРУШАЦЬ ЗАВЕДЗЕНАЕ ПРАВІЛА. І нельга назваць гэта «падхалімажам і ліслівасцю» перад рускай культурай. НАВАТ У ЗАКОНЕ АБ МОВАХ СКАЗАНА, ШТО НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ ІСНУЮЦЬ 2 ДЗЯРЖАЎНЫЯ МОВЫ — БЕЛАРУСКАЯ І РУСКАЯ. Калі пісалі гэты Закон, відаць, улічвалі, што ў Беларусі жыве шмат людзей, для якіх руская мова з'яўляецца роднай. Але яны тут жывуць даўно, уносяць свой уклад у развіццё беларускай культуры, эканоміку, з'яўляюцца не меншымі патрыётамі, чым мы — беларусы. І калі журналіст запрашае таго ці іншага чалавека да мікрафона, то ён гаворыць на той мове, якой лепш валодае. Бо іначай яго нецікава будзе слухаць.*

*ШТО Ж ДАТЫЧЫЦЬ КАНКРЭТНА РЭКЛАМЫ І АБ'ЯЎ, ТО ЯНЫ ПЕРАДАЮЦЦА НА ТОЙ МОВЕ, НА ЯКОЙ ПРОСІЦЬ ЗАКАЗЧЫК, БО ТОЙ ПЛАЦІЦЬ ГРОШЫ (І НЕМАЛЫЯ). А на гэтыя грошы мы існуем, бо дзяржава нам вельмі і вельмі мала выдаткоўвае на ўсе патрэбы.*

*І яшчэ да ведама. Усе журналісты радыё нядрэнна валодаюць беларускай мовай, бо гэта адно з першых патрабаванняў пры прыёме на работу.*

*З павагай адказны сакратар З. М. КАВАЛЕНКА.*

З гэтага адказу Міхась Кадыка робіць слушную выснову: сакратар З. М. Каваленка не ведае законаў нашай рэспублікі. У артыкуле 2 Закона аб мовах напісана: «У адпаведнасці з Канстытуцыяй (Асноўным Законам) Рэспублікі Беларусь дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова».

А што, калі іншыя супрацоўнікі беларускага радыё гэтак жа «ведаюць» законы, а радыёжурналісты яшчэ і працуюць паводле памылковага ўяўлення аб статусе беларускай мовы?

Рэдакцыя спадзяецца даведацца, калі ж скончыцца «парушэнне заведзенага правіла», ды што думаюць самі радыёжурналісты пра «трасянку» ў радыёперадачах, бо, вядома ж, культура мовы сведчыць аб іх прафесійнай падрыхтоўцы.

# Хто працуе на ніве Адраджэння

**У другім нумары «Нашага слова» быў змешчаны здымак і невялічкі матэрыял пра Сярожу Петрыкевіча. Нядаўна Сярожа прынёс у рэдакцыю ліст, які мы і друкуем.**

Беларусь стала незалежнай дзяржавай. Але ці поўная гэта незалежнасць, калі беларуская мова па-ранейшаму застаецца «беднай сіратой» на роднай зямлі? На жаль, многія людзі не разумеюць гэтага. І вельмі крыўдна, што не разумеюць гэтага і некаторыя дзеячы культуры. Хто, як не яны, павінны ў першую чаргу працаваць на ніве беларускага Адраджэння, дбаць пра пашырэнне ўжытку роднай мовы?

Нядаўна адбыўся фестываль «Кінакалядкі-92». І што ж? Наколькі мне вядома, фільмаў беларускамоўных на фестывалі не было. Дык які гэта беларускі фестываль? Не паляпшаецца справа і з выданнем беларускамоўных газет. Па-ранейшаму выходзяць у свет усё новыя і новыя расійскамоўныя выданні (прыклад? — калі ласка, «Футбол Беларуси»). Многія выданні кідаюцца ў палон двухмоўя (як, да прыкладу, «Мінская праўда»). А падпісчыкам беларускамоўнага «Вячэрняга Мінска», відаць, у хуткім часе давядзеццаануляваць падпіску.

У музыцы становішча, на маю думку, таксама не надта добрае. Зусім мала спяваюць на роднай мове такія папулярныя спевакі, як Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч. Праўда, абнадзейвае стварэнне беларускіх рок-гуртоў «Уліс», «Мроя» і іншых.

І першае, што я хачу параіць усім сваім аднадумцам: часцей звяртайцеся да слоўнікаў, чытайце і выпісвайце беларускамоўную перыёдыку. Самае ж галоўнае — будзьце ўпартымі.

Сярожа ПЕТРЫКЕВІЧ,
вучань 7 класа
СШ № 188.
г. Менск.

# МАЕ

У гэтым годзе значна павялічылася не толькі колькасць падпісчыкаў «Нашага слова», але і яго аб'ём, а значыць, магчымасці для пашырэння тэматыкі публікацыі газеты. Каб і надалей кола прыхільнікаў роднай мовы пашыралася, уношу некалькі прапаноў. Па-першае, мэтазгодна больш строга прытрымлівацца пастаянных рубрык, як гэта робяць іншыя газеты. Увесці і новыя. Такія, на маю думку: 1) Круглая дата; 2) Весці з суполак ТБМ; 3) Беларуская школа; 4) Наш слоўнік; 5) Старонка для школьнікаў; 6) Старонка для малышоў; 7) Знаёмства з песняй.

У рубрыцы Круглая дата можна змяшчаць матэрыялы, прысвечаныя юбілеям канкрэтных асоб і памятным датам з гісторыі Беларусі. Пры гэтым не трэба аддаваць перавагу літаратарам, былі і ёсць дастойныя людзі на Беларусі, акрамя іх.

Беларуская школа, зразумела

*Фёдар ЯНКОЎСКІ*

# ЛЮДЗІ... СЛОВЫ

### СПАТРЭБІЛІ

— У нас жа, баба, яны былі недзе. Ажно цэлая торбачка. Не ведаеш? — шукаючы, пытаецца гаспадар у гаспадыні пра цэлы пачак цвічкоў.— Трэба ж мне.

— Якая торбачка? Які пачок цвічкоў? Іх даўно няма: то сам, то сынок твой, і ўсе да аднаго спатрэбілі.

### ПЫТАЕЦЦА ЭТНОГРАФ

Этнограф у экспедыцыі на Любаншчыне. Пытаецца ў цёткі:

— Ваш абрус даматканы?

— Як-як? Не разабрала, што вы сказалі мне.

— Абрус ваш даматканы?

— Ці дома, пытаецеся, тканы?

Этнограф не разумее... пытанне на пытанне.

— Вашы абрусы, пытаюся, і ручнікі вашы, дамотканыя?

А-а-а! Дома, чалавеча, дома. Сама я дома ткала. Ручнікі, праўда, ткала не ў хаце: было цёпла, дык мы ў клеці кросны ставілі, каб пылу менш было, каб лягчэй прыбіраць было. У мяне й дыванкі былі саматканыя, й ручнікі саматканыя, й кужэльнае палатно саматканае. Дома. А дзе ж? Сама ткала. То ўсё саматканае.

### ГОРАЧА

— Была ты ўчора ў клубе на канцэрце?

— Была.

— І як?

— Канцэрт добры быў, вясёлы. Толькі вельмі горача было. Людзей сабралося, што яблыку не было дзе ўпасці, стаць не было дзе.

— Сёння з раёна радзіва расказвала, казалі што — я-бо яны казалі? — «у нашым клубе горача сустракалі цыркачоў, спевакоў».

— «Горача сустракалі»? Не толькі ім, артыстам, а і нам усім было горача: клуб малаваты, на дварэ парнасць такая, цяплынь, а людзей паўнютка-паўнютка. То й горача было — ім спяваць, а нам слухаць.

# Кароткі слоўнік эканомікі

**АКРЭДЫТЫЎ.** У практыцы рыначных адносін ім карыстаюцца значна часцей, чым перадачай пры куплі-продажы наяўных грошай з рук у рукі. Слова мае французскае паходжанне. Азначае грашовы дакумент, якім пацвярджаецца права асобы, на якую ён выпісаны, атрымаць у крэдытнай установе ўказаную ў ім суму грошай. Яшчэ значэнне — адзін з відаў банкаўскага рахунку. Адкрываецца па даручэнню плацельшчыка для безнаяўных разлікаў за тавары і паслугі. У такім выпадку аплата разліковых дакументаў пастаўшчыка тавару робіцца ў банку, які яго абслугоўвае, за кошт сродкаў, дэпаніраваных (пакладзеных на захаванне) для гэтай мэты ў банку пакупніка.

**ДЭФІЦЫТ.** Слоўца пайшло гуляць па свеце яшчэ ад лацінянаў і азначала напачатку проста недахоп чаго-небудзь. У нас жа зараз — недахоп прыбыткаў ад расходаў дзяржавы. А калі строга па-навуковаму, то ў свеце грашова-фінансавых і валютных адносін дэфіцытам называецца перавышэнне плацяжоў над паступленнямі прыбытку. На любым узроўні — нейкага гаспадара-адзіночкі, урада ці цэлай краіны — Д. парушае эканамічную раўнавагу, вядзе да даўгоў, якія чым далей, тым цяжэй ліквідаваць. Вельмі часта, калі такія даўгі робіць урад, то потым імкнецца выкруціцца за кошт збеграшэнняў насельніцтва, паскараючы выпуск (эмісію) папяровых грошай. Для таго каб гэтай бяды пазбавіцца, трэба тэрміновае грунтоўнае даследванне ўсёй эканамічнай структуры, якая Д. садзейнічае.

# РАЗМОЎНІК ВЕТЛІВАГА ГОСЦЯ

*Для гасцявання ў Літве*

1. Добры дзень!
Laba diena!
Лаба дена!
2. Добрай раніцы!
Labas rytas!
Лабас рітас!
3. Добры вечар!
Labas vakaras!
Лабас вакарас!
4. Сардэчна запрашаем! (пры сустрэчы, вітанні тых, хто прыехаў)
Sveiki atvykę!
Свейкі атвікя!
5. Як вы даехалі?
Kaip jūs atvykote?
Кайп юс атвікотя?
6. Я вельмі рады (радая) сустрэчы з вамі.
Labai džiaugiuos jus sutikęs (sutikusi).
Лабай джяугюос юс сутікяс (сутікусі).
7. Як вы сябе адчуваеце?
Kaip jūs jaučiatės?
Кайп юс яучятес?
8. Дзякуй, добра.
Ačiū, gera.
Ачю, гяра.
9. Як справы?
Kaip reikalai?
Кайп рейкалай?
10. Дзякуй, няблага.
Dėkui, neblogai.
Декуй, няблогай.
11. Да пабачэння!
Iki pasimatymo!
Ікі пасіматімо!
12. Шчаслівай дарогі!
Laimingos kelionės!
Лаймінгос кялёнес!
13. Усяго добрага!
Viso gero!
Вісо гяро!
14. Бывайце (заставайцеся здаровы)!
Likite sveiki (likite sveikos)!
Лікітя свейкі (лікітя свейкос)!

*Дапытліваму*

# ШЛЮБ

На Беларусі апошнім часам усё больш уваходзіць у моду віншаваць маладых на вяселлях «з бракам». Дый не проста «з бракам», а яшчэ і «з законным».

Слухаю я гэта і думаю: «Што здарылася з вамі, людзі?!» У нас жа для гэтай нагоды ёсць такое прыгожае слова «шлюб». Дык чым жа гэта слова вам не імпануе? Чым правінавацілася перад вамі? Няўжо слова «брак» і сапраўды вам мілейшае за «шлюб»? Браку ўсялякага ў нашым жыцці і так стае, няма ніякай змогі яго адолець. А тут яшчэ і маладым гэтага браку жадаюць. Нядобра гэта. То, можа, вернемся да нашага спрадвечнага слова, ад якога мы так недарэчна выракліся?

Уладзімір СОДАЛЬ.

*Урокі*

*Васіль МЕЛЬЯНОВІЧ*

# Беларусазнаўства ў сярэдніх школах і двухгадовых каледжах штата Мерыленд

Калі гаварыць больш дакладна, то беларусазнаўства — новая з'ява ў амерыканскіх навучальных установах. Вывучэнне славістыкі не ўключана ў праграмы шмат якіх амерыканскіх навучальных устаноў. Прычын для гэтага, ведама, шмат. Напрыклад, на думку Мілрэд Джыкман, амерыканская школа патрабуе ад вучня адмовіцца ад сваёй спадчыны, калі ён можа паспяхова амерыканізавацца.

У Статуце дзяржаўных школ штата Мерыленд (1970) ёсць пункт, у якім гаворыцца, што «ўсе дзяржаўныя школы павінны ўключыць у свае навучальныя праграмы і ўнесці афіцыйна ў расклад заняткаў ці выдзеліць як асобныя курсы адпаведную дысцыпліну, якая б развівала разуменне і прызнанне этнічных і культурных меншасцей».

Давайце разгледзім вывучэнне беларусазнаўства і ўвогуле славістыкі так, як яно на сённяшні дзень арганізавана ў штаце Мерыленд. Розныя дакументы, у якіх апісваецца стан сістэмы адукацыі штата, сведчаць, што спробы на працягу многіх гадоў наладзіць сістэматычнае вывучэнне славістыкі на ўзроўні сярэдняй школы і каледжа не мелі поспеху. Намаганні асобных настаўнікаў не былі сістэматычнымі і скаардынаванымі. Фактам з'яўляецца, што адукацыйныя ўлады не ўхвалялі і не падтрымлівалі гэтых спроб.

Група амерыканцаў беларускага, славацкага і ўкраінскага паходжання ўтварыла ў 1973 годзе Усходнееўрапейскую акадэмічную асацыяцыю штата Мерыленд. Асацыяцыя паставіла перад сабой наступныя мэты: 1. Садзейнічаць вывучэнню ўсходнееўрапейскіх культур у каледжах і універсітэтах. 2. Па магчымасці рыхтаваць стварэнне этнічна-культурнага цэнтра і фундацыі для штата Мерыленд. 3. Скласці падрабязны пералік неабходных патрэб для педагагічных кадраў і вучняў і рыхтаваць нацыянальныя бібліяграфіі. 4. Прапагандаваць значэнне нацыянальных супольнасцей у сродках масавай інфармацыі. 5. Умацоўваць супрацоўніцтва з іншымі групамі, якія займаюцца этнічнымі праблемамі.

Паколькі большасць актыўных членаў асацыяцыі славянскага паходжання, яе праграма ў асноўным сканцэнтравана на пытаннях і праблемах, якія датычаць менавіта гэтай этнічнай групы. Але звяртаецца ўвага і на справы ды праблемы іншых усходнееўрапейскіх нацый.

З моманту свайго ўзнікнення Усходнееўрапейская асацыяцыя зрабіла вялікія поспехі ў абароне інтарэсаў амерыканцаў славянскага паходжання штата Мерыленд.

Адбыўся шэраг сустрэч загадчыка аддзела адукацыі штата доктара Дж. Сенсамба з прадстаўнікамі беларускіх, славацкіх і ўкраінскіх супольнасцей. Былі выказаны скаргі і зроблены канкрэтныя прапановы і рэкамендацыі. Гэтыя перамовы аказаліся плённымі, у выніку іх з'явілася дырэктыва аддзела адукацыі штата: «Асноўныя напрамкі ацэнкі і адбору навучальных матэрыялаў, якія павінны забяспечыць належнае прызнанне нацыянальных і культурных меншасцей». Хоць у гэтых «Асноўных напрамках...» чарнаскурыя амерыканцы і карэнныя амерыканцы (амерыканскія індзейцы) вызначаюцца як групы, што сутыкаюцца цяпер з найбольшымі праблемамі, дакумент у цэлым ахоплівае інтарэсы ўсіх этнічных груп. У выніку большая ўвага стала надавацца славянскім народам у тэлеперадачах, прысвечаных этнічным групам, падборы адпаведных кніг і ў паляпшэнні зместу навучальных курсаў. Асобным настаўнікам стала лягчэй атрымаць дазвол на адкрыццё курсаў і семінараў, чытанне лекцый па дысцыплінах, якія раней ігнараваліся, і збіраць больш натуральным спосабам адпаведную інфармацыю па амерыканскай гісторыі і сацыялогіі.

У Гарвардскім каледжы былі арганізаваны курсы па гісторыі Польшчы. У каледжы горада Эсекс пачалося выкладанне польскай і ўкраінскай гісторыі і мовы. У Таўсанскім дзяржаўным універсітэце ўведзены курсы вывучэння нацыянальных груп, у тым ліку некаторых славянскіх. Пачаліся кантакты паміж славянскімі супольнасцямі: беларусы падтрымлівалі развіццё польскай і ўкраінскай культуры і наадварот. Лекцыі, семінары, практычныя заняткі па гісторыі Беларусі, мове, культуры, уключаючы музыку і літаратуру, перыядычна арганізуюцца ў некаторых сярэдніх школах і каледжах.

Дзякуючы намаганням прафесара Пола Фрэнчака, спецыяліста па праблемах Усходняй Еўропы, у навучальным плане сярэдняй школы вышэйшай ступені ў Пайксвіле, адной з самых прэстыжных школ штата, уведзены курсы па вывучэнні ўсходнееўрапейскіх праблем. Гэтая школа зрабіла шэраг магнітафонных запісаў пад назвай «Перспектывы ўзаемадзеяння нацый...», «Галасы нашых этнічных амерыканцаў». Гэтыя запісы і іншыя дапаможныя матэрыялы выкарыстоўваліся на занятках па іншых прэстыжных прадметах. Тэмы дыскусій абавязкова ўключалі абмеркаванне праблем славянскіх народаў, што насяляюць Беларусь, Чэхаславакію, Польшчу і Украіну.

Найбольш эфектыўны спосаб расказаць пра беларусаў амерыканскага паходжання — гэта рабіць намаганні па распаўсюджванні інфармацыі пра краіну і яе народ на Радзіме і за мяжой: зразумела, што гэта патрабуе цярпення, упартасці, вынаходлівасці і, дзеля дасягнення аптымальных вынікаў, прафесійнай падрыхтоўкі. Настаўніца музыкі павінна ўключыць у свой навучальны план беларускі рэпертуар. Гісторык, які піша падручнік для сярэдняй школы, мае права і магчымасць уключыць туды матэрыялы па Усходняй Еўропе: беларускія падзеі, гістарычныя асобы і грамадскія рухі. Кожны мастак ці выканаўца павінен шукаць магчымасці ўключыць матэрыял, звязаны з беларускай спадчынай у сваю творчую працу.

Большую галоснасць трэба надаць правядзенню беларускіх свят. У пачатковай школе настаўнікі беларускага паходжання павінны праводзіць «Дзень ушанавання сваіх каранёў» і даць магчымасць вучням расказаць адзін аднаму, адкуль паходзяць іх сем'і. Яны павінны навучыць вучняў належным чынам ідэнтыфікаваць славянскае паходжанне.

Адной з найвялікшых патрэб нацыянальнай супольнасці з'яўляецца патрэба мець пісьменніка, які б мог зрабіць тое, што Тэйлар Колдуэл зрабіў для ірландцаў («Капітаны і Каралі»), Говард Фаст — для італьянцаў («Імігранты») або Майкл Арлен — для армян («Шлях да Арарата»). Адзін добры водгук пра кнігу, якая трапляе ў спіс бестселераў, можа зрабіць больш, чым магчыма дасягнуць ва ўсім свеце шумнымі спробамі прымусіць урадавыя або адукацыйныя колы зрабіць тое, чаго яны не разумеюць або сур'ёзна не ўспрымаюць.

(Запісы Беларускага інтытута навукі і мастацтва, Нью-Йорк, 1983).

Пераклала з англійскай мовы Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.



З залацістых саломінак штогод да Вялікадня спляталі сялянскія рукі дзіўныя па прыгажосці і лёгкасці павуцінкі, упрыгожваючы іх дэкаратыўнымі элементамі з каляровай паперы, пер'я, кветак... А быў у свой час «павук» своеасаблівым язычніцкім бажаством.

Сёння ўжо рэдка сустрэнеш «павука» ў вясковых хатах. Але ён застаўся элементам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. І гэтым мы абавязаны нешматлікім народным майстрам, якія захавалі для нас старажытную традыцыю.

Сярод іх — маладая мастачка Таццяна Маркавец, апантаная працай з саломай. Многія людзі дапамаглі ёй у выбары прызвання. А можа, больш за ўсё запалі ў сэрца будучай мастачкі бясхітрасныя ўрокі бабулі Соф'і Аляксандраўны, да якой яна кожнае лета прыязджала ў Докшыцы. Менавіта тут навучылася Таццяна плесці з саломы першыя простыя рэчы.

Сёння Таццяна Маркавец — мастак з цвёрдай творчай пазіцыяй. Развіваючы народныя традыцыі саломапляцення, яна шукае свой стыль, каб яшчэ адной рыскай узбагаціць старажытнае мастацтва.

На здымку: Таццяна Маркавец.

Фота Е. КАЗЮЛІ (БЕЛТА).

*Алег БЕМБЕЛЬ*

# З «падпольнай» кнігі

*(Працяг. Пачатак у № 5—6).*

**Пімен ПАНЧАНКА**

**РОДНАЯ МОВА**

Кажуць, мова мая аджывае
Век свой ціхі: ёй знікнуць пара.
Для мяне ж яна вечна жывая,
Як раса, як сляза, як зара.

Гэта ластавак шчабятанне,
Звон світальны палескіх крыніц,
Сінь чабору, і барвы зарніц,
І буслінае клекатанне.

Калі ж хто загадае: «Не трэба!» —
Адрачэцца ад мовы народ,—
Папрашу я і сонца, і неба:
Мне не трэба ні славы, ні хлеба,
Асудзіце на безліч нягод.

Толькі месяцаў назвы пакіньце,
Назвы родныя роднай зямлі,
Пра якія з маленства ў блакіце
Бор шуміць і пяюць жураўлі:

Студзень — з казкамі шчодрых аблокаў,
Люты — шчодры на сіні мароз,
Сакавік — з сакатаннем і сокам
Непаўторных вясновых бяроз.

Красавік — час маланак і ліўняў,
Травень — з першым каханнем, сяўбой,
Чэрвень — з ягаднаю зарой,
Ліпень — з мёдам,
З пшаніцаю — жнівень.

Спелы, яблычны верасень,
Светлы кастрычнік
У празрыстасці чыстай, крынічнай,
Лістапад — залаты лістапад,
Снежань — першы густы снегапад...

Ці плачу я, ці пяю?
Восень.
На вуліцы цёмна...
Пакіньце мову маю,
Пакіньце жыццё мне.

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

**БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ**

Дзе мой край? Там, дзе вечную песню пяе Белавежа,
Там, дзе Нёман на захадзе помніць варожую кроў,
Дзе на ўзвышшах Наваградскіх дрэмлюць суровыя вежы
І вішнёвыя хаты глядзяцца ў шырокі Дняпро.
Ты ляжыш там, дзе сіняя Прыпяць ласкава віецца,
Дзе Сафія плыве над Дзвіною, нібы карабель...
Там, дзе сэрца маё з першым крокам, як молат, заб'ецца,
Калі б нават сляпым і глухім я прыйшоў да цябе.
Што сляпым? Нават мёртвым успомню высокія зоры,
Над ракою чырвонай і цьмянай палёт кажаноў,
Белы ветразь на сініх, на гордых, як мора, азёрах,
І бары-акіяны, і неба разлівы ільноў.
Дзе мой край? Там, дзе людзі ніколі не будуць рабамі,
Што за паліўку носяць ярмо ў безнадзейнай турме,
Дзе асілкі-хлапцы маладымі ўзрастаюць дубамі,
А мужчыны, як скалы — ударыш, і зломіцца меч.
Дзе мой край? Там, дзе мудрыя продкі у хвоях паснулі,
Дзе жанчыны, як радасны сон у стагах на зары,
А дзяўчаты, як дождж залаты. А сівыя матулі,
Як жніўё з павуціннем і добрае сонца ўгары.
Там звіняць неўміручыя песні на поўныя грудзі,
Там спрадвеку гучыць мая мова, булатны клінок.
Тая гордая мова, якую й тады не забудзем,
Калі сонца з зямлёю ў апошні заглыбіцца змрок.
Ты — наш край. Ты — чырвоная груша над дзедаўскім
домам,
Лістападаўскіх знічак густых фасфарычная раць...
Ты — наш сцяг, што нікому, нікому на свеце, нікому
Не дамо абсмяяць, апаганіць, забыць ці мячом зваяваць.
Мы клянёмся табе баразной сваёй першай на полі
І апошняй раллёй, на якую ўпадзём у журбе,
Мы клянёмся табе, што ніколі,
Ніколі,
Ніколі,
Так,
Ніколі не кінем,
Не кінем,
Не кінем цябе.

*(Працяг будзе).*

# З пашанай да беларускай кнігі

Адраджэнне роднай мовы немагчыма без шырокай прапаганды беларускай кнігі. Кніга, своечасова прачытаная, ці не адна з першых умоў беларусізацыі. І хто як не бібліятэкары павінны аб гэтым турбавацца... Мой аповяд пра тое, як дбаюць пра адраджэнне роднай мовы ў Пухавіцкай раённай бібліятэцы.

Як толькі быў прыняты Закон аб мовах, у бібліятэцы правялі сацыялагічнае даследаванне. Галоўным пытаннем распаўсюджанай бібліятэкарамі сярод чытачоў анкеты было: што з беларускіх кніг чытаюць наведвальнікі? З анкеты і чытацкіх фармуляраў бібліятэкары даведаліся, што найбольшай папулярнасцю карыстаюцца творы Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава, Паўла Місько, Георгія Марчука, Аляксея Кулакоўскага, Вячаслава Адамчыка, Аркадзя Марціновіча, Уладзіміра Федасеенкі. Як бачна, творы пісьменнікаў самыя розныя і па тэматыцы і па мастацкаму ўзроўню. Чытаюць гэтых аўтараў пераважна настаўнікі беларускай мовы і літаратуры. Хоць у райцэнтры чатыры сярэднія школы, хоць наведваюць бібліятэку з навакольных вёсак, але колькасць чытачоў у ёй невялікая.

Дык што рабіць, каб людзі пачалі цікавіцца навінкамі нацыянальнай літаратуры? У бібліятэцы звярнуліся да бібліяграфічных паказальнікаў «Новыя кнігі» і «Літаратура і мастацтва». Сталі шырэй прапагандаваць літаратуру гістарычную, краязнаўчую, словам, якраз тую, якой не хапае настаўнікам не толькі роднай мовы і літаратуры, але і гісторыі, геаграфіі. З дапамогай выкладчыкаў работнікі бібліятэкі рэкламуюць сярод вучняў паступіўшыя ў бібліятэку як перавыданні класікі, так і творы сучасных аўтараў. Раённая бібліятэка рыхтуе і рассылае па школах інфармацыйныя спісы. Да некаторых настаўнікаў бібліятэкары звяртаюцца індывідуальна.

Апошнім часам асаблівую ўвагу работнікі раённай бібліятэкі аддаюць іншым катэгорыям чытачоў. Вось і спяшаюцца вечарамі мар'інагорцы на вуліцу Гучка, 64,— якраз тут месціцца скарбніца ведаў. Будаўнік Іван Кароткі пытаецца пра навінкі гістарычнай літаратуры. А для яго ўжо падрыхтаваны і «Старажытная Беларусь» Міколы Ермаловіча, і апошнія краязнаўчыя кнігі — навінкі выдавецтва «Полымя». А рабочы леспрамгаса Уладзімір Закрэўскі ведае: калі раптам прапусціў што цікавае з мастацкай прозы ў «Полымі» ці «Маладосці», то ў бібліятэцы падкажуць, звернуць увагу. Таццяна Сурма — студэнтка. Але ж у бібліятэку спяшаецца не толькі за навукова-папулярнай, даведачнай літаратурай. Зацікаўленасць Таццяны беларускай прозай і паэзіяй таксама стараюцца задаволіць.

Традыцыйныя кніжныя выстаўкі, тэматычныя паліцы — не адзіныя мерапрыемствы па прапагандзе беларускамоўнай кнігі. Часты госць у бібліятэцы — літаратурнае аб'яднанне «Мар'інка», якое працуе пры раённай газеце «Пухавіцкія навіны». І калі наладжваюцца вечарыны, то і гаспадары і госці — мясцовыя паэты Уладзімір Рунцэвіч, Лявон Дубоўскі, Захар Бірала — канешне ж гавораць і пра нялёгкі лёс роднага слова.

Не забываюцца ў бібліятэцы і на тое, што Пухаўшчына нарадзіла, выхавала і адправіла ў вялікі свет паэтаў і празаікаў. Сёння ў беларускай літаратуры плённа працуюць землякі пухаўчан Таіса Бондар, Валянцін Мыслівец, Пятро Рунец, Алесь Пісарык. Вось і стараюцца бібліятэчныя работнікі асабліва заўважыць кожную іх новую кнігу. Ладзяць з гэтай нагоды прэм'еры кніг, рыхтуюць ранішнікі.

Запомніўся чытачам і нядаўні краязнаўчы вечар «Мне лепей ад роднага краю нічога на свеце няма». Праводзілі яго бібліятэкары сумесна са старшакласнікамі Мар'інай Горкі. Прысутныя змаглі добра пазнаёміцца з творчасцю пісьменнікаў-землякоў — Міхася Чарота, Алеся Бачылы, Анатоля Вольнага, Генадзя Кляўко...

Але ж не ўсё проста і гладка складваецца ў Пухавіцкай раённай бібліятэцы, як, відаць, і ў мностве іншых устаноў, найгалоўнейшы абавязак якіх — прапаганда беларускамоўнай кнігі. Да пагаршэння справы маюць самае непасрэднае дачыненне эканамічны хаос і бязладдзе. Паменшылася падпіска на перыёдыку. Праўда, падпісаліся ў бібліятэцы на газету «Наша слова».

Паменшала ў бібліятэцы і сустрэч з прафесійнымі літаратарамі — няма на мерапрыемствы грошай. У хуткім часе можа паўстаць праблема набыцця кніжных навінак. Тым больш, што пацiху беларускамоўная кніга пачынае выдавацца і праз кааператыўна-камерцыйныя структуры. Як, да прыкладу, арыгінальныя зборнікі вершаў Таццяны Сапач, Людмілы Рублеўскай, Віктара Шніпа, дэтэктывы Максіма Клімковіча, Міраслава Шайбака... Але ж ці вядомы гэтыя кніжкі шырокаму колу чытачоў? Ці патрапяць яны ў дзяржаўныя бібліятэкі?..

Бібліятэкары з Мар'інай Горкі, цэнтра Пухавіцкага раёна, заклапочаны справай адраджэння роднай мовы. Але ж і плённая праца бібліятэк патрабуе заклапочанасці з боку дзяржавы.

**А. КУТ.**

## ВІС: дзе што?

Не ўсе машыны, якія прывезлі ў Латвію гуманітарную дапамогу з Нямеччыны, вярнуліся дадому пустыя. На адну з іх была пагружана ў Ліепаі трохтонная бронзавая статуя Леніна, якая да леташняга жнівеньскага путчу стаяла на высокім п'едэстале ў цэнтры горада. Скульптура будзе выкарыстана немцамі ў рэкламных мэтах. На выручаныя ж грошы ліепайская гарадская ўправа разлічвае набыць комплекс абсталявання для асфальтавання гарадскіх вуліц.

# Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску

*Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

***«Біблія», акрамя ўсяго іншага, з'яўляецца выдатным помнікам старажытнай літаратуры. У скарбонку старажытнаяўрэйскай паэзіі ўвайшла «Найвышэйшая песня Саламонава», з якой мы змяшчаем тут сёмую паэму.***

**Нявесцін голас**

О, няхай бы ты быў мне братам,
маёй мацеркай узгадаваны,—
сустракала б цябе за парогам
і адкрыта цябе цалавала б,
і ніхто мне асуды не даў бы.
Прывяла б я цябе з сабою
у дом мацеркі роднай маёй.
Ты вучыў бы мяне,
а я паіла б цябе духмяным вінам
і сокам з маіх гранатаў!

**Нявеста**

Яго левая — пад маёй галавою,
а правай рукою мяне абдымае,—

**Жаніх**

Заклінаю вас, ерусалімскія дочкі:
не будзіце, не турбуйце каханай,
пакуль не прачнецца сама.

**Хор**

Хто там ідзе з пустэльні,
абапершыся на каханага?

**Жаніх**

Пад яблыняй я разбудзіў цябе:
там цябе нарадзіла маці,
там нарадзіла родная.

**Нявеста**

Пячаткай мяне пакладзі на сэрца сваё,
пакладзі на рукі, як пярсцёнак:
бо каханне, як смерць — моцнае;
рэўнасць, як пекла — лютая;
стрэлы яго — стрэлы вогненныя;
яно — полымя непагаснае.
Вялікія воды не могуць любоў патушыць,
і рэкі яе не затопяць.
Калі б хто даваў багацці дома свайго за любоў,
іх адхілілі б з пагардай.

**Пераклад Васіля Сёмухі.**

## *Проза*

*(Працяг. Пачатак у № 5—6).*

Гары КЕМЕЛМАН

# II. Выкраданне Глорыі

Надышла і мая чарга наладзіць прыём у гонар Клуба акруговых пракурораў — чыста дыскусійнага гуртка, ад членаў якога нічога больш не патрабуецца, як час ад часу даваць добры абед, пасля якога госці ўвесь вечар гутараць на прафесійныя тэмы — галоўным чынам выхваляюцца адзін перад адным, прыгадваючы цікавыя судовыя справы, якія яны правялі пасля апошняй сваёй сустрэчы.

Фэрфільдская наша акруга — параўнаўча ціхая і спакойная, у ёй рэдка калі здараецца штонебудзь сенсацыйнае. Таму, калі настала мая чарга расказваць пра дасціпна разблытаную справу альбо пра складаны юрыдычны казус, які даў мне бліснуць маімі здольнасцямі крыміналіста, мне не было чым заінтрыгаваць кампанію, апрача крымінальнай справы пад назвай «Дзевяць міль у дождж», у якой майму сябру Нікі Уэлту шляхам лагічных высноў удалося рэканструяваць і выкрыць злачынства пры маім сціплым удзеле.

Прысутныя далікатна выслухалі мяне, хоць па іхніх тварах можна было зразумець, што, на іх думку, я крыху занадта драматызаваў факты, каб зрабіць свой расказ цікавейшым. Калі я скончыў, Эліс Джонстан, пракурор Суфалька, самай населенай акругі нашай суполкі, і старшыня кампаніі, што сабралася ў мяне, паблажліва паківаў галавой і сказаў:

— Усё гэта цудоўна. Іншы раз нас сапраўды натхняе інтуітыўная здагадка, і яна аказваецца правільнай. Аднак, калі на вас навальваецца тысяча спраў у год, для вырашэння большасці іх нельга давярацца толькі інтуіцыі. Вы абавязаны ўжываць звычайную, зусім празаічную працэдуру, даследаваць самыя дробныя факты і факцікі, якія ўдалося выявіць, пакуль, нарэшце, не высвеце з іх ісціну. У вырашэнні крымінальных спраў галоўнае не натхненне, а цярпенне.

Прысутныя моўчкі паківалі ў знак згоды.

— Вось зараз я вам нешта пакажу, і вы зразумееце, што я маю на ўвазе,— дадаў Джонстан.

З унутранай кішэні пінжака ён выцягнуў аб'ёмісты бумажнік, дастаў з яго прамавугльны кавалак пругкай паперы і кінуў на стол. Усе мы падняліся з крэслаў і ўтаропілі вочы на дакумент. Гэта была фотакопія выкупнога пісьма. Такія пісьмы нярэдка ўжываюць выкрадальнікі дзяцей — невялічкія палоскі друкаванага тэксту, наклееныя на чысты ліст паперы. Разам яны складалі такі тэкст:

«Пяцьдзесят тысяч долараў ДРОБНЫМІ ЎЖЫВАНЫМІ купюрамі ІНАКШ ГЛОРЫЯ знікне Назаўсёды. Тое ж самае здарыцца, калі ВЫ ПАВЕДАМІЦЕ ПАЛІЦЫІ. ДАДАТКОВЫЯ Інструкцыі будуць дадзены ПА ТЭЛЕФОНЕ».

Пасланне было даволі звычайнае ў такіх выпадках, калі не лічыць таго, што на кожнай палосцы з друкаваным тэкстам выразна праступалі адбіткі пальцаў, праяўленыя спецыяльным чорным парашком, якім паліцэйскі фатограф прысыпаў арыгінал.

Джонстан адкінуўся ў крэсле і сачыў за намі, калі мы нагнуліся над сталом. Чалавек ён быў масіўны, прысадзісты, з мясістымі губамі і рашучым падбародкам. Хоць ён займаў пост пракурора больш дзякуючы свайму палітыканству, чым юрыдычным талентам, шмат хто лічыў яго вялікім знаўцам у сваёй галіне.

— Правяраць, ці ёсць адбіткі пальцаў,— звычайная працэдура, паліцэйская завядзёнка,— зазначыў ён,— але іх і так было ясна відаць, без парашку. Гэтыя выразкі друкаванага тэксту — не на звычайнай друкарскай паперы, а на глянцаванай, з такіх, напрыклад, часопісаў, як «Лайф» ці «Сэтардэй Іўнінг пост», на ёй цудоўна відаць адбіткі пальцаў. Дык вось што я хачу сказаць: мы не сядзім, варожачы на кафейнай гушчы, каб даўмецца, чаму, прыняўшы такія вытанчаныя меры засцярогі ад выкрыцця, чалавек раптам псуе ўсё, пакідаючы адбіткі сваіх пальцаў. На сотнях судовых спраў, якія праходзяць праз нашы рукі, мы пераконваемся, што злачынцы часта робяць такія прамашкі. Так магло здарыцца і ў нашым выпадку, аднак не выключана і тое, што зроблена гэта з дзёрзкага выхвальства. І такія выпадкі бывалі. Выхвальства — адна з характэрных уласцівасцей злачынцы. Як бы там ні было, мы не дазваляем збіць нас з правільнага шляху. У нас ёсць цвёрда заведзены парадак, завядзёнка, разумееце? І менавіта яна пры агульных намаганнях усіх, каго гэта датычыцца, вырашае праблему, а не натхненне, альбо інтуітыўная здагадка, ці нейкая там чарадзейная логіка, якой нібыта кіраваўся ваш друг прафесар,— апошнія словы Джонстан прамовіў, прыемна выскаліўшыся ў мой бок.— Такіх выпадкаў у нашай акрузе — хоць агарод гарадзі,— казаў ён далей,— нашмат больш, чым публіцы здаецца. Людзі думаюць, што выкраданне дзяцей — справа рэдкая і што такіх выпадкаў роўна столькі, колькі разоў пра іх крычаць газетныя загалоўкі. На самай справе выкраданне ў нас не рэдкасць. Як і пры шантажы, перавага на баку злачынцы, і гэта вядзе да пашырэння такіх злачынстваў. Часцей за ўсё ахвяра праз дзень ці два плаціць выкуп, і справе канец. У паліцыю амаль ніколі не паведамляюць — баяцца помсты. Менавіта так здарылася і з доктарам Джонам Рыганам. Ён атрымаў вось гэтае патрабаванне выкупу, праз два дні заплаціў грошы і прывёў сваю дачку Глорыю дамоў. Выкрадальнікі нечым адурманілі яе, і таму яна нічога не магла нам расказаць. А было так: яна пайшла з бацькам у «Срэбраны туфлік» — начны клуб і гульнявы дом. Неўзабаве бацьку паклікалі да тэлефона. Калі ён вярнуўся, кельнер паведаміў яму, што дачка яго сустрэла сяброў і разам з імі пайшла ў нейкі іншы клуб. Рыган не ўбачыў у гэтым нічога незвычайнага, застаўся ў клубе і прабыў некалькі гадзін у гульнявай зале, а потым адзін пайшоў дадому. Раніцай па пошце прыйшло пісьмо з вось гэтым пасланнем. Крыху пазней у той самы дзень яму пазванілі па тэлефоне і сказалі, як перадаць грошы і дзе знайсці дачку. Выкрадальнікі слова стрымалі і на другі дзень яму дачку вярнулі.

— А потым Рыган, напэўна, патэлефанаваў вам?

— Не. Гэта якраз адзін з тых выпадкаў, пра якія звычайна ў паліцыю не паведамляюць. Нават калі мы ўзяліся за расследаванне, доктар не вельмі ахвотна дапамагаў нам. Усё паўтараў, што быў удзельнікам дзелавой здзелкі і больш пра гэта здарэнне і думаць не хоча. Безумоўна, ён хлусіў. Думаю, проста не хацеў прызнацца, што баіцца помсты. А мы націскаць на яго не маглі. У нашым горадзе ён чалавек паважаны — апякун некалькіх дабрачынных устаноў, член грамадскіх камісій і таму падобнае, і страшэнна багаты. Я гавару не пра такое багацце, якое бывае ў моднага і папулярнага ўрача. Праўду кажучы, ён некалькі гадоў ужо не практыкуе, нікога не лечыць, калі не лічыць яго старэйшага брата Філіпа, які жыў пры ім. Філіп быў хворы на сэрца. Даходы Рыгану прыносіць нерухомая маёмасць, а яна ў яго вялікая. Самі разумееце, на такога чалавека ціснуць нельга. Пра выпадак з Глорыяй нам паведаміў прыватны дэтэктыў Саймс, шэф мясцовага аддзялення крымінальнага вышуку, і перадаў нам гэтае пасланне,— Джонстан паказаў пальцам на фотакопію, што ляжала на стале.— Яго наняў старэйшы брат Філіп Рыган. Ён не прасіў Саймса заняцца пошукамі злачынцы — меркавалася толькі, што дэтэктыў у якасці пасрэдніка перадасць грошы. Відаць, Філіп баяўся, што, калі сам доктар возьмецца за гэта, яго могуць ашукаць — узяць выкуп і не аддаць дачкі, а магчыма, нават і запатрабаваць больш грошай. Аднак абышлося без паслуг дэтэктыва. Выкрадальнік, як я ўжо казаў, пазваніў доктару па тэлефоне, той неадкладна зрабіў, як яму было сказана, і атрымаў дачку. Калі я спытаўся ў яго, чаму ён не звярнуўся да паслуг Саймса, Джон Рыган адказаў, што і ў галаве такога не трымаў. Гэта яго старэйшы брат Філіп звязаўся з Саймсам, бо ён чалавек хворы і пужлівы.

Памаўчаўшы крыху, Джонстан гаварыў далей:

— Дык вось, калі дачка вярнулася дадому, доктар не захацеў больш займацца гэтай справай. Але назаўтра ў Філіпа здарыўся новы сардэчны прыступ, і ён раптоўна памёр. Усё гэта вельмі занепакоіла Саймса. Знаеце, у самой смерці Філіпа Рыгана няма нічога незвычайнага. Яму было пад шэсцьдзесят, шмат гадоў ён хварэў на каранарную недастатковасць. Ён мог памерці ў любы момант. Магчыма, яго даканала хваляванне ад усёй гэтай справы — выкраданне пляменніцы, радасць ад яе вяртання... Але ў Саймса і так ужо скрэбла на душы ад думкі, што ён вымушаны хаваць у тайне сур'ёзнае злачынства, а тут яшчэ — смерць кліента. Ён лічыў, што гэта, безумоўна, збег акалічнасцей, але, з другога боку, абедзве падзеі маглі мець нейкую больш непасрэдную сувязь. Нарэшце, ён звязаўся з нью-йоркскай канторай прыватнага вышуку, і яму параілі паведаміць пра ўсё нам. Тое, што ён меў справу з Філіпам, а не з доктарам, крыху аблегчыла яго сумленне, бо пасля смерці Філіпа ён не быў абавязаны захоўваць тайну. Мы, вядома, цікавіліся абставінамі смерці Філіпа, але нічога падазронага не выявілі. Ён даўно ўжо пакутаваў ад хваробы сэрца. Нічым не займаўся — круціўся толькі каля дому, калдыбаў у старой вопратцы па садзе, пляткарыў са знаёмымі праз паркан. Летам хадзіў на рыбалку з суседскімі хлапчукамі. Гэта быў спакойны і прастадушны стары.— Джонстан таропкім жэстам загадзя спыніў магчымыя пярэчанні і, хітравата-самазадаволена ўсміхнуўшыся, дадаў: — Але наш абавязак расследаваць любы выпадак выкрадання людзей.

Ён адкінуўся ў крэсле і развёў рукамі:

— Вось вам і ўвесь малюнак... Што ж мы робім? Але перш — чаго мы не робім. Мы не спрабуем рабіць здагадкі, чаму злачынец пакідае на выкупным патрабаванні адбіткі сваіх пальцаў. Як я казаў ужо, злачынцы заўсёды дзе-небудзь памыляюцца. Каб не памыляліся, мы ніколі нават спадзявацца не маглі б выявіць іх. Мы проста пачалі дзейнічаць без розных там дэдукцый па заведзеным парадку. Паслалі копіі адбіткаў у Вашынгтон на той выпадак, калі ў іхняй картатэцы ўжо ёсць такія. Але адбіткаў там не аказалася — занадта б ужо проста было. Мы не расчараваліся. Разумееце, калі вы робіце ўсё па завядзёнцы, то загадзя ведаеце, што большая частка вашых хадоў — марная трата часу. Хай, не гэта важна. Важна тое, што рана ці позна адзін з іх кудынебудзь прывядзе, а астатняе ўжо справа тэхнікі. Мы папрасілі эксперта даследаваць выкупную запіску і даведацца, з якіх часопісаў зроблены выразкі. Па фотакопіі вызначыць нельга, аднак нават беглага позірку на арыгінал даволі, каб убачыць, што ўсе яны з глянцаванай паперы і з розных часопісаў, бо папера неаднолькавай таўшчыні. Мы далі заданне нашаму агенту дазнацца, што гэта былі за часопісы і з якіх нумароў зроблены выразкі. Задача не такая ўжо і складаная, бо ўсе словы былі ўзяты з загалоўкаў,— проста нудная работа,— а друкаваны тэкст на адвароце кожнага кавалачка памагаў дакладна ўстанавіць нумар часопіса. Калі мы даведаліся, што злачынец карыстаўся чатырма рознымі часопісамі, апошнімі іх нумарамі, мы паслалі людзей ва ўсе кнігарні і кіёскі ў раёне таго паштовага аддзялення, адкуль было адпраўлена пісьмо.

*(Працяг будзе).*

